*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

**№ 225 (807)**

Субота, 4 снежня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Прарочы голас**

*80 год таму прагучаў трывожны і поклічны голас вялікага сына Беларусі Янкі Купалы ў абарону найкаштоўнейшага скарбу — незалежнасці нашай Бацькаўшчыны. Гэтым скарбам трэба даражыць, за яго трэба змагацца — такі прарочы заповет пакінуў нам непахісны патрыёт Радзімы. І неўміручыя словы яго далятаюць з далёкага 1919-га ў наша сёння і звіняць, як набат, у сэрцах усіх, каму дарагія свабода і шчасце любай Беларусі.*

*Малавядомы, але актуальнейшы (зразумела, з улікам рэалій часу) артыкул Янкі Купалы "Незалежнасць", пасля доўгіх часоў замоўчвання, быў надрукаваны ў зборніку паэта "Жыве Беларусь", які ўбачыў свет у 1993 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".*

*Прапануем яго вашай увазе, шаноўныя чытачы.*

*Янка КУПАЛА*

## Незалежнасць



Калі гавораць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць. Незалежная Польшча, Літва, Украіна, Латвія і г.д. — усе яны маюць права на гэта, усіх іх можна прызнаць, нават можна і дапамагаць ці то фізічна, ці маральна, і незалежнасць гэтых дзяржаваў не выклікае ніякіх вялікіх спрэчак. Так ці йначай яны мусяць, яны будуць мець раней ці пазней сваё дзяржаўнае незалежнае існаванне.

А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучу нагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі згодзіцца, абы толькі не на беларускую.

Чаму гэта так?

Беларускі народ самабытны — гэта прызнаюць ужо нават і нашы праціўнікі з польскага ці расійскага лагера. Беларуская дзяржаўнасць таксама мае сваю гісторыю — маю тут на ўвазе Вялікае Літоўска-Беларускае княства. Геаграфічнае палажэнне Беларусі таксама не горшае, як у людзей, ну, хоць бы як палажэнне Швейцарыі. Мы крыху адсунуты ад мора, але і Швейцарыя не мае мора. Дык чаму ж так страшна наша незалежнасць?

А гэта вось чаму.

Наша незалежнасць соллю ўваччу для незалежнасці нашых суседак — Польшчы і Расіі, бо і адна, і другая хацелі б нашу незалежнасць утапіць у лыжцы вады сваёй незалежнасці.

Для адбудавання вялікай Польшчы "ад мора да мора" трэба пераступіць Беларусь; для адбудавання вялікай Расіі ад Белага да Чорнага мора таксама трэба растаптаць Беларусь.

Вось і выходзе, што трэба Беларусь выкінуць з гісторыі, з геаграфіі, і наогул калі не цалкам прылучыць яе к адной з суседніх дзяржаваў, то разрэзаць напалавіну, але так зрабіць, каб яе не было і звання.

А Беларусь, як і кожная іншая дзяржава, мае права і даб'ецца раней ці пазней гэтага права стаць роўнай і вольнай дзяржавай паміж суседзямі.

Што яна павінна такой стацца, за гэта гавораць яе мінуўшчына, яе цяперышчына.

Нікому не сакрэт, што жыць на свеце беларусам было і ёсць найцяжэй, як усім іншым народам, і ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў. Але разбяром па парадку.

Пасля уніі з Польшчай Вялікага Літоўска-Беларускага княства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю, — гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца ўсяго свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру. Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадзянства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю бацькаўшчыну.

Так было і так ёсць заўсёды. Вышэйшыя, багацейшыя станы грамадзянства за бліск золата ідуць к дужым, пакідаючы сваіх братоў слабейшых на здзек і паняверку.

І зрабілася на Беларусі пасля уніі з Польшчай тое, чаго і трэ было чакаць.

Масы, народ земляробны, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі. Такім чынам, двор сам па сабе як бы аддзяліўся ад вёскі. Беларускі пан зрабіўся чужым для беларускага селяніна. Беларускае баярства сталася чужацкім на сваёй беларускай зямлі. Тыя самыя людзі, толькі багацейшыя, пачалі гаварыць рознымі языкамі, і сягодня яны паміж сабой нічога супольнага не маюць. Двор глядзіць на селяніна, як на "люд рускі", як на быдла, над каторым можна толькі стаяць з бізуном аканомскім, а вёска глядзіць на пана, як на прыблуду з чужацкай стараны, які захапіў яго, селяніна, зямлю ды йшчэ здзекуецца над ім самім.

Пасля уніі з Польшчай прыйшла на Беларусь апека маскоўская. Цары нагналі ўсялякіх чыноў, запрудзілі край усялякай маскоўскай чорнай галытнёй, якая тут толькі аб адным дбала, каб як цяплей пагрэць рукі ды захапіць "маёнтак". Але аб беларусу-селяніне, аб беларусу-грамадзяніне ніхто і не падумаў.

Прыбыла толькі к польска-панскаму бізуну чыноўніцка-жандармская нагайка.

Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцяй ад Масквы, а на лепшае нічога не змянілася. Маскоўскі чыноўнік, таксама як польскі пан, глядзеў на беларуса як на "скот" (той — як на "быдло"). І ніхто з гэтых апекуноў нават і пальцам не кіўнуў у той бок, каб палепшыць жыццё беларуса, каб падбаць аб яго родным краю.

І адны, і другія глядзелі на Беларусь, глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.

А беларус стагнаў і стагнаў.

З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе.

І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

Край наш сам па сабе багаты, толькі чужыя гаспадары яго знішчылі. Зямлі маем шмат, лесу яшчэ болей; маем вялікія рэкі, азёры, чыгункі, багатыя месты, а ў іх фабрыкі, заводы, ды і шмат іншага дабра. К таму ж на лік мы народ вялікі — каля 12 мільёнаў. Гэта не тое, што якая-небудзь там Швейцарыя, Данія ці Грэцыя!

Дык чаму ж нам, браты беларусы, не дамагацца сваёй дзяржаўнай незалежнасці?

Мы павінны яе дамагацца і мірна, і з аружжам у руках, бо жыццё не чакае і ворагі нашы не дрэмлюць.

*1919 г.*

### Сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў СНД плануецца правесці 20—21 студзеня ў Маскве

План сустрэч кіраўнікоў дзяржаў СНД на 2000 год павінен быць узгоднены 19 студзеня на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў СНД. Як паведаміла ўкраінскае агенцтва УНІАН, пра гэта заявіў выканаўчы сакратар СНД Юрый Яраў на сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам, якая адбылася ў Кіеве.

Бакі, у прыватнасці, абмеркавалі пытанні падрыхтоўкі да наступнага саміта кіраўнікоў дзяржаў СНД, які плануецца правесці 20—21 студзеня 2000 года ў Маскве. Падчас гутаркі Л.Кучма адзначыў неабходнасць рэалізацыі рашэння кіраўнікоў дзяржаў — членаў СНД аб стварэнні ў межах Садружнасці зоны свабоднага гандлю, прынятага паводле ініцыятывы Украіны. Абмяркоўвалася таксама роля структур СНД ва ўрэгуляванні сітуацыі ў "гарачых кропках" на тэрыторыі Садружнасці.

**БелаПАН—УНІАН.**

### БНФ заклікае спыніць "імперскую палітыку Расіі"

Кіраўніцтва партыі Беларускага народнага фронту выступіла са зваротам да ўсіх партый краіны, а таксама краін — членаў НАТО, Заходняй, Цэнтральнай Еўропы і дзяржаў Балтыі. У ім змяшчаецца заклік "аказаць уплыў на парламенты і ўрады сваіх дзяржаў з мэтай прыняцця рашучых захадаў па спыненні імперскай захопніцкай палітыкі Расіі".

Саюзны дагавор, на думку кіраўніцтва партыі БНФ, з'яўляецца "механізмам падману беларускага народа, прыкрыццём акупацыі Беларусі, паколькі абодва бакі ўяўляюць сабой структуры адной і той жа савецка-кэгэбісцкай сістэмы, якая не разбурылася з распадам СССР".

Рашаючую ролю ў спыненні імперскай палітыкі Расіі, на думку аўтараў звароту, могуць адыграць улады заходніх дзяржаў, НАТО і еўрапейская супольнасць, якія, аднак, "занялі ў цэлым пасіўную пазіцыю".

**Наталля КУЛАГІНА.**

### Вот и поговори теперь по телефону

Услуги электросвязи подорожали с 1 декабря на 50%. Поминутная оплата телефонного разговора по городу выросла для населения с 580 до 870 рублей, для организаций — с 950 до 1430 рублей за минуту.

**Независимая экспертиза**

*Елизавета БУЛАТЕЦКАЯ*

## Не надо прятать голову в песок

После двухлетнего "триумфального шествия" программа "Жилье", основанная на государственных дотациях, оказалась практически в тупике. Спустя три года с начала ее реализации все пришло к тому, с чего начиналось, поскольку не удалось устранить ни одну из проблем, на решение которых программа была направлена.

Как и пять лет назад, сегодня из-за недостатка финансирования мы вновь наблюдаем падение объемов ввода жилья и рост "незавершенки". Суммарная площадь не доведенных до сдачи кредитуемых объектов выросла с 1,24 миллиона квадратных метров в начале года до 2,7 миллиона квадратных метров по состоянию на октябрь. На достройку этого жилья необходимо как минимум около 360 триллионов рублей льготных кредитов, тогда как в следующем году планируется выделить около 40—60 триллионов рублей и 20 триллионов в этом году.

Количество очередников не только не уменьшилось, но даже увеличилось, то есть социальная острота жилищной проблемы не снизилась.

Крупные домостроительные комбинаты и многие предприятия стройматериалов по-прежнему испытывают трудности с реализацией своей продукции. Но даже те из них, кто не имеет таких проблем и работает на всю мощность для удовлетворения жилищно-строительных нужд, не могут похвастаться улучшением финансового состояния. Причина — задолженность потребителей и необходимость отпускать стройматериалы по заниженным ценам. Что касается подрядных организаций, то и на них увеличение числа заказов за счет жилищной программы не оказало положительного воздействия. Если пять лет назад низкая (или отрицательная) рентабельность была обусловлена недостаточной загрузкой имеющихся мощностей, то сегодня они еле сводят концы с концами, работая на всю мощность.

Виной всему, считают в Минстройархитектуры, является действующая система финансирования жилых объектов, основанная преимущественно на льготных кредитах и потому превращающая жилищное строительство в убыточную сферу деятельности.

Даже председатель правления Нацбанка признает, что льготные кредиты на 40 лет под 5 процентов годовых при годовой инфляции в 200—300 процентов — это абсурд. В Минэкономики уже давно с недоверием посматривали на такую форму государственной поддержки. Отрицательное отношение к льготным кредитам созрело и в правительстве. Поэтому решено, что в следующем году правила и условия льготного кредитования будут значительно ужесточены. Долю льготных кредитов в общем объеме финансирования жилищного строительства планируется сократить до 20 процентов (с 40—45 процентов в 1997—1998 годах). А если так, то за какие, извините, "шиши" будут достраиваться начатые объекты? Ведь формирование ЖСК, рассчитанных на привлечение льготных кредитов, продолжается даже сегодня, за исключением некоторых городов.

В этой ситуации Минстройархитектуры рекомендует местным администрациям доводить предприятиям задания по инвестициям в строительство (это предложение неоднократно звучало на заседании коллегии по итогам 9 месяцев текущего года). Председатель правления Нацбанка предлагает строителям достраивать "незавершенку" за свои деньги — государство, мол, потом рассчитается. А в целом и в правительстве, и в министерствах возлагают надежду на деньги граждан и юридических лиц.

Между тем большинство юридических лиц едва держится на плаву. И им не до строительства жилья. Покупательская способность граждан тоже снижается, о чем свидетельствует резкое падение спроса на вторичное и строящееся в рамках долевого участия жилье практически во всех городах Беларуси.

К примеру, фирма "Гродножилстрой" не сумела за три месяца реализовать девять квартир (стоимостью 260 долларов за квадратный метр по курсу приблизительно 400.000 белорусских рублей за один "зелененький") в построенном в июне текущего года доме и вынуждено было передать их горисполкому в счет оплаты за инфраструктуру. А за первую декаду октября предприятие не заключило ни одного договора о долевом участии в строительстве жилья. В Витебске и того хуже. Непродаваемыми оказались квартиры стоимостью в 240—290 долларов за квадратный метр по курсу Нацбанка.

Казалось бы, что в такой ситуации правительству следовало бы признать, что сегодня следует несколько снизить задания по вводу жилья. Но в проекте прогнозных показателей социально-экономического развития, недавно одобренном правительством, фигурирует цифра почти такая же, как и в этом году, — 3,6 миллиона квадратных метров нового жилья должно быть введено в эксплуатацию. По всей видимости, правительство просто не решается назвать вещи своими именами.

А надо сказать, что стратегия развития народного хозяйства после 1996 года оказалась ошибочной. В частности, ожидания, что строительство жилья станет тем локомотивом, который вытянет экономику, как это бывало в истории других стран, не оправдались. Лишь в 1996 году у людей были еще какие-то деньги и на один рубль государственных дотаций они вкладывали 1,8 рубля своих сбережений. Но накопления граждан быстро иссякли. В 1998 году на рубль дотаций приходилось уже 00,78 рубля застройщиков. Да иначе и не могло быть в стране, где на один квадратный метр площади квартиры человек должен работать 3—4 месяца.

Льготные кредиты, налоговые отсрочки, освобождение от обязательной продажи валюты и другие преференции (и не только в сфере строительства) вызвали инфляционную волну. Инфляционный налог снимал ресурсы и с прибыльно работающих предприятий, и с населения для строительства жилья тем счастливчикам, кто правдой и неправдой (таких тоже немало) получил практически даровые кредиты. Так строительство жилья, наряду с господдержкой АПК и других убыточных предприятий, стало фактором истощения основных фондов предприятий и понижения уровня жизни населения. Продолжение строительства за счет разрушения промышленности и обнищания населения уже невозможно. Так или иначе, но планируемые объемы строительства на 2000 год выполнены не будут.

Вообще, есть ли смысл строить новое жилье в больших размерах, когда нет ресурсов, чтобы отремонтировать уже ветшающее жилье (недовыполнение планов ремонта жилья составило по Минжилкоммунхозу 7 триллионов рублей за 10 месяцев 1999 года), когда ни население, ни государство, не могут оплатить потребление энергоресурсов на отопление (если Россия вдруг перестанет отпускать газ в долг да еще сверх лимитов, то многие будут мерзнуть в своих квартирах), когда "социального" жилья уже давно настроено сверх всякой меры и т.д.

Сказав "А", то есть признав, что государство уже выдохлось, правительству следует сказать и "Б", а именно, что у населения тоже нет денег, и строительство жилья сильно сократится. Только глядя на сложившуюся ситуацию открытыми глазами, можно еще как-то определиться с тем, что делать с незавершенным строительством ЖСК, как развить вторичный рынок жилья, как помочь тем, у кого вообще нет ни денег, ни жилья...

***(Аналитическая группа "Z".)***

**Прэм'еры**

### "Эсмеральда" на сцэне Нацыянальнага тэатра балета

Прэм'ера балета "Эсмеральда" паводле рамана Віктора Гюго "Сабор Парыжскай Багародзіцы" на музыку Цэзара Пуні адбылася ў Беларускім Нацыянальным акадэмічным тэатры балета. У спектаклі былі задзейнічаныя: цыганка Эсмеральда — абаяльная Вольга Гайко, паэт П'ер Грэнгуар — Ігар Сядзько, святар Клод Фрало — Раду Паклітару, званар сабора Квазімода — Андрэй Рымашэўскі, афіцэр Феб дэ Шатапер — Аляксей Турко.

Музычны кіраўнік і дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалай Каляпка. Над сцэнаграфіяй і касцюмамі працаваў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь В.Окунеў. Пастаноўку ажыццявіў народны артыст СССР, танцоўшчык і харэограф, прафесар Мікалай Далгушын.

**Вера КРОЗ.**

**Спорт**

### Вышэйшая ліга футбольнага чэмпіянату будзе скарочана з 16 да 14 каманд

У 2001 годзе вышэйшая ліга нацыянальнага чэмпіянату Беларусі па футболе будзе скарочана з 16 да 14 каманд. Такое рашэнне прынята на апошнім пасяджэнні выканкама Беларускай федэрацыі футбола.

Чэмпіянат 2000 года стане пераходным. Паводле ягоных вынікаў вышэйшую лігу пакінуць тры клубы, а ўвойдзе ў яе толькі пераможца турніру ў першай лізе. У сувязі з гэтым першую лігу пакінуць чатыры каманды, а ўвойдуць у яе толькі дзве. Адначасова прынята рашэнне не праводзіць чэмпіянат сярод дублюючых саставаў паводле прычыны недастаткова трывалага фінансавага становішча клубаў. Што тычыцца Кубка краіны, то чвэрцьфіналы і паўфіналы розыгрышу 2000/2001 гадоў будуць складацца з дзвюх сустрэч — дома і на выездзе.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

**Надвор'е**

4 і 5 снежня — воблачна з праясненнямі, 4-га на большай частцы тэрыторыі ападкі. Вецер паўднёва-заходні, 8—13 м/сек, парывы да 15—20 м/сек, месцамі да 24 м/сек. Тэмпература паветра на працягу сутак 0...-5; 5-га месцамі невялікі снег, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ўначы 0...-5, удзень -3...+2.

### Прафесар Міхаіл Пастухоў лічыць, што вынікам стварэння саюзнай дзяржавы стане паглынанне Беларусі Расіяй

Адказваючы на пытанні экспертнага апытання БелаПАН, праведзенага ў сувязі з маючым адбыцца падпісаннем Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, эксперт — прафесар, доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў выказаў меркаванне аб магчымай перспектыве гэтага ўтварэння. На ягоную думку, гэта федэрацыя, якая з цягам часу можа стаць "адзінай Расіяй, з паглынаннем той часткі, якая называецца Беларуссю".

Адначасова былы канстытуцыйны суддзя М.Пастухоў бачыць некаторыя змяненні, якія здольна выклікаць падпісанне дагавора. Напрыклад, ён лічыць, што Расія ў выніку "паглынання Беларусі" пашырыць свае валоданні, адсуне дзяржаўную мяжу да Польшчы і атрымае свабодны транзітны пераход у Еўропу.

Аднак негатыўныя наступствы ў выпадку, калі саюзная дзяржава Беларусі і Расіі будзе створана, паводле ацэнак прафесара М.Пастухова, будуць больш значнымі для дзвюх краін. Ён лічыць, што ў Расіі ўзмацняцца цэнтрабежныя тэндэнцыі, паколькі рэгіёны запатрабуюць, па прыкладзе Беларусі, большай самастойнасці, і пачнецца распад Расіі, з якой выйдуць такія часткі федэрацыі, як Татарстан, Урал, Далёкі Усход, Карэлія і г.д. Беларусь жа, паводле прагнозу юрыста, страціць сваю самастойнасць як дзяржава.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**



Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** Народная Воля (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** Народная Воля

ПВ | месца | літар

(індэкс выдання)

Кошт: падпіскі ___ руб., перадрасоўкі ___ руб.

Колькасць камплектаў

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Падпіска**

### Наш верны сябра — беларускае слова

*Падчас падпіснай кампаніі моладзевая валанцёрская плынь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны праводзіць акцыю па прапагандзе беларускага друкаванага слова. Валанцёры распаўсюджваюць улёткі наступнага зместу:*

**Наша мова для нас святая,**
**яна нам ад Бога даная...**

*Францішак Багушэвіч*

Дарагі сябра!

Наша родная беларуская мова ўвесь час размываецца шматлікімі замежнымі тэлевізійнымі каналамі ды іншымі сродкамі масавай інфармацыі, нашы дзеці не маюць магчымасці паглядзець нават мультфільма на матчынай мове, паўсюль пануе мова суседняга народа: і ў школе, і на вуліцы, і на працы. **Святы абавязак кожнага з нас — захаваць нашу мілагучную прыгожую мову.**

Няхай родная мова прыйдзе ў кожны дом разам з беларускамоўнымі друкаванымі выданнямі. Няхай штодня ў паштовых скрынях нас чакае верны сябра — беларускае друкаванае слова.

***

*Ты, мой брат, каго зваць беларусам,*
*Роднай мовы сваёй не цурайся;*
*Як не зрокся яе пад прымусам,*
*Так і вольны цяпер не зракайся...*

*Алесь Гарун*

*Падпішыся на беларускамоўнае выданне, падтрымай Беларусь і мову **свайго** народа!*

**Моладзевая валанцёрская плынь ГА Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

Ва ўлётцы называюць беларускамоўныя і дзвюхмоўныя выданні, на якія рэкамендуецца падпісвацца грамадзянам Беларусі. Сярод іх — і "Народная воля".

### Список торговых точек "Белсоюзпечати", принимающих подписку на "Народную волю" в г.Минске со скидкой при льготной и обычной подписке — на 30 процентов, при ведомственной — на 20 процентов.

**Октябрьский район**

| | |
|---|---|
| Октябрьский пункт подписки | ул.Жуковского, 5/1 |
| Магазин №1 | ул.Жуковского, 5 |
| Магазин №12 | ул.Кижеватова, 80 |
| Киоск №228 | Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17 |
| Киоск №245 | Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56 |

**Партизанский район**

| | |
|---|---|
| Партизанский пункт подписки | ул.О.Кошевого, 8 |
| Магазин №6 | ул.Филимонова, 1 |
| Магазин №18 | ст.метро "Площадь Победы" |
| Киоск №2 | Лингвистический университет, ул.Захарова, 21 |

**Первомайский район**

| | |
|---|---|
| Первомайский пункт подписки | пр.Ф.Скорины, 113 |
| Магазин №3 | пр.Ф.Скорины, 76 |
| Магазин №13 | ул.Калиновского, 82/2 |
| Магазин №23 | ул.Славинского, 39 |

**Московский район**

| | |
|---|---|
| Фрунзенский пункт подписки | ул.Романовская Слобода, 9 |
| Магазин №20 | ул.Есенина, 16 |
| Киоск №34 | г-ца "Минск", пр.Ф.Скорины, 11 |
| Киоск №37 | Дом правительства, ул.Советская, 11 |
| Киоск №38 | Педагогический университет, ул.Советская, 18 |
| Киоск №40 | Мингорисполком, пр.Ф.Скорины, 8 |
| Киоск №95 | Комитет архитектуры и гражданского строительства, ул.Мясникова, 39 |
| Киоск №243 | Совмин, ул.Советская, 9 |
| Киоск №302 | 9-я больница |

**Фрунзенский район**

| | |
|---|---|
| Центральный пункт подписки | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №11 | пр.Пушкина, 77 |
| Магазин №15 | ул.М.Танка, 16 |
| Магазин №19 | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №21 | ст.метро "Пушкинская" |
| Киоск №232 | МЗХ, пр.Машерова |
| Киоск №262 | г-ца "Планета", пр.Машерова, 31 |
| Киоск №298 | пр.Машерова, 75/1 |

**Ленинский район**

| | |
|---|---|
| Участок подписки "Белсоюзпечати" | ул.Володарского, 16, к.302 |
| Магазин №4 | ул.Ленина, 15 |
| Магазин №9 | пр.Рокоссовского, 140 |
| Магазин №14 | ул.Володарского, 22 |
| Магазин №25 | ул.К.Маркса, 21 |
| Киоск №16 | г-ца "Свислочь", ул.Кирова, 13 |
| Киоск №18 | Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4 |

**Советский район**

| | |
|---|---|
| Магазин №2 | пр.Ф.Скорины, 44 |
| Магазин №7 | ул.Я.Коласа, 69 |
| Магазин №8 | ул.Сурганова, 40 |
| Магазин №16 | ул.В.Хоружей, 24 |
| Магазин №17 | ул.Некрасова, 35 |
| Киоск №136 | ст.метро "пл.Я.Коласа", выход к ин-ту Физкультуры |

**Центральный район**

| | |
|---|---|
| Магазин №10 | ул.Осипенко, 2 |
| Киоск №78 | г-ца "Юбилейная", пр.Машерова, 19 |
| Киоск №88 | Миноблисполком, ул.Энгельса, 4 |
| Киоск №187 | г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15 |

**Заводской район**

| | |
|---|---|
| Магазин №24 | ул.Жилуновича, 31 |
| Киоск №198 | Экономический университет |
| Киоск №209 | проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2 |

